№ 4, сьнежань 1988

# ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ





RADIO VATICANA
Ufficio Propaganda
00120 CITTÀ DEL VATICANO

## БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР

адказны за бюлетэнь
Янка Мойсік

### РАСТВО

На беспрасьветным нашым бездарожжы
няўзнак абыйдзем плач жабрачай леры,
сям'ёю дружнай пры Сьвятой Вячэры
згадаем дом свой - сумны і прыгожы.

Пальнуць думкі па Дзьвіне, па Сожы,
па Нёмне, - ўсюды - праз пацёмак шэры:
- "Настала радасьць" - стукацьмуцца ў дзьверы -
"Радзіўся, людзі, Збаўца вам - Сын Божы!" -

Спавіты змрокам лятуценьні нашы,
п'ём сьлёзы мукаў зь недапітай чашы.
Сьвятла шукаем - не знайшлі нічога.

О дзе-ж вы, дзе-ж вы, што цяпер ня з намі?
На кручах сьвету не спачынем снамі,
спаткаем разам прыйсьце дня сьвятога!

Алесь Салавей

ПЕРАСЫЛАЕМ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ САРДЭЧНЫЯ КАЛЯДНЫЯ І НОВАГОДНІЯ ПРЫВІТАНЬНІ ! ЖАДАЕМ СПАКОЙНА, РАДАСНА І Ў ДОБРЫМ ЗДАРОЎІ ПРАВЕСЬЦІ СЬВЯТЫ. НЯХАЙ ГОСПАД БОГ НАДЗЕЛІЦЬ ВАС, ДАРАГІЯ БЕЛАРУСЫ-ЭМІГРАНТЫ, У НОВЫМ, 1989 ГОДЗЕ, ВЕЛІЧЧУ СВАЁЙ ЛАСКІ.

30 ГОДДЗЕ СЬВЯТАРСТВА АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСОНА-- АПОСТАЛЬСКАГА ВІЗЫТАТАРА ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ КАТОЛІКАЎ ПА-ЗА БЕЛАРУСЬСЮ!

Дня 23 лістапада 1958 году ў Грэцкай Калегіі ў Рыме быў высьвячаны ў сьвятары дыякан Аляксандар Надсон. Акт высьвячэньня зьдзейсьніў Біскуп Мэле.

Айцец Аляксандар Надсон нарадзіўся 8 жніўня 1926 году ў Гарадзеі, Нясьвіжскага раёну. Учас ваеннай завірухі апынуўся на чужыне. Тут аддаўся з энтузыязмам ідэйна-грамадзкай беларускай працы. Прыймае актыўны ўдзел у такіх арганізацыях як ЗБВБ (дзе займаў адказныя кіраўнічыя становішчы ды ў гадах 1951-53 быў старшынёю гэтай арганізацыі), затым быў таксама праз тры гады старшынёю Беларускага Каталіцкага Акадэмічнага Абьяднаньня "Рунь", якое зьяўлялася сэкцыяй "Пакс Романа" ды членам БНХР. З натуры схільны да дакладных навук студыюе спачатку хімію а пазьней матэматыку на Лёнданскім Унівэрсытэце.

Пачуўшы ў сабе прызваньне да служэньня Богу і Бацькаўшчыне ў сьвятарстве, едзе ў Рым і там, як студэнт Грэцкай Калегіі, студыюе на Грэгарыянскім Папскім Унівэрсытэце Філязофію і тэалёгію. З тых часоў ягоны артыкул зьмешчаны ў "Божым Шляху" пра Грэцкую Калегію і пра даўнейшых яе студэнтаў, дагэтуль не страціў сваей вартасьці.

Галоўным занятказ айца Надсона пасьле павароту з Рыму ў Лёндан была Школа Сьвятога Кірылы Тураўскага, якая праіснавала 15 гадоў, а праз якую прайшло каля 20 вучняў беларусаў і некалькі ангельцаў. Калі ажывіла сваю дзейнасьць Англа-Беларускае Таварыства і пачало сыстэматычна 7 разоў у год ладзіць на ўнівэрсытэцкім узроўні даклады, айцец Надсон быў сталым лектарам і ягоныя даклады заўсёды былі арыгінальныя, добра апрацаваныя ды таму і цікавыя. Большасьць з іх пасьля друкавалася ў англа-моўным журнале беларусаведы, які сёньня цешыцца пашанай ва ўсім навуковым сьвеце.

У 1971 годзе быў куплены дом (асабняк) для Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Хутка айцу Надсону быў даручаны новы абавязак бібліятэкара. За некалькіх гэтых гадоў Беларуская Бібліятэка разраслася ды стала вогнішчам беларусаведы. Тут вялікая заслуга яе бібліятэкара, каторы шчыра, сур'ёзна і ведамі нятолькі выпісвае патрэбныя кніжкі, але і прыцягвае людзей.

Пры ўсіх сваіх занятках айцец Аляксандар Надсон астаецца сьвятаром і то ў першую чаргу. Даў гэтаму доказы ва ўсіх сваіх друкаваных працах, у абыходжаньні з людзьмі, ў сваіх казаньнях і гэтак далей. Айцец Надсон мае свой ўласны стыль, хаця шмат рэчаў робіцца супольна ў грамадзе. Гэтага не мог не заўважыць Апостальскі Пасад, ды ў сакавіку 1986 году назначыў айца Аляксандра Надсона на Апостальскага Візытатара для Беларусаў Католікаў па-за Беларусьсю.

Астаецца нам пажадаць яму далейшых посьпехаў і Божага блаславенства ў працы на рэлігійнай і культурнай ніве. Шчасьці Божа!

## У 10-ЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ПРАЛАТА ПЯТРА ТАТАРЫНОВІЧА

ч.4 Др. Віктар Сенкевіч

Кандыдат філязафічных навукаў, дацэнт Уладзімер Доктараў, у сваім артыкуле пад назвай "Кроў на сутане" ("Каталіцызм і фашызм"), надрукаваным у газэце "Зьвязда" ад 16-га кастрычніка 1984 году, выдагнага беларускага рэлігійнага і грамадзка-культурнага дзеячá, каталіцкага сьвятара Пралата Пятра Татарыновіча, дзесятыя ўгодкі сьмерці якога прыпалі на 3-га верасьня сёлета, залічыў да групы духавенства зь ліку беларускіх нацыяналістаў, акрэсьліваючы яго як "заўзятага ворага савецкае ўлады". Што гэтыя закіды і абвінавачваньні хвалшывыя і неабгрунтаваныя нашы слухачы маглі даведацца з нашых трох гутарак пра яго, якія мы толькі што перадавалі. У іх мы паказалі Пралата Татарыновіча ў сапраўдным сьвятле, як актыўнага дзеяча і духоўнага правадыра, які ў кожнай галіне сваёй дзейнасьці, а іх было многа, пакінуў па сабе трывалі сьлед. Сёньня-ж і ў дапаўненьне сказанага намі, прапануем урыўкі з успамінаў пра яго ягонага былога вучня Станіслава Бýбеня, што былі зьмешчаныя ў беларускай эміграцыйнай газэце "Беларус", нумары 283-284-ым з 1980 году, якая выходзіць у Нью Ёрку. Станіслаў Бýбень жыве ў Любліне ў Польшчы. У 1980 годзе ён прыехаў на пару месяцаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі ў адведзены да сына. Перад вайною Бубень вучыўся ў Баранавічах якраз у айца Пятра Татарыновіча. Будучы ў Нью Ёрку ён і напісаў пра яго ўспаміны, якія зьяўляюцца цікавым і карысным аўтэнтычным дакумэнтам пра Пралата Татарыновіча, які заўсёды ахвярна ўсьведамляў маладое беларускае пакаленьне, прывіваючы яму нацыянальны патрыятызм.

Свае ўспаміны Станіслаў Бубень пачынае ад сьцьвярджаньня, што Пралат Татарыновіч сапраўды быў, як часта яго называлі, "чалавекам ідэі", які верыў моцна, што на родным загоне мала-памалу ўзыйдзе сонца вольнага палітычна-грамадзкага нацыянальнага жыцьця. Паводля аўтара ўспамінаў, велічы ідэалаў і думак, якія ксёндз Та-

тарыновіч адкрываў беларускаму народу, прыймала шчыра беларуская каталіцкая моладзь, якую ён узгадоўваў, будучы школьным настаўнікам і прэфэктам.

"У працу над узгадаваньнем дарастаючай моладзі, – чытаем ува ўспамінах Станіслава Бубеня, – ён укладаў усе свае прыродныя пэдагагічныя здольнасьці. Абдораны неспажытай сілай уплыву на маладыя душы, ён патрапіў згуртаваць вакол сябе немалую групу хлопцаў і дзяўчатаў, зь якіх спадзяваўся, выйдуць вартасныя людзі".

"Умела і зь вялікім веданьнем вучнёўскае псыхалёгіі, ён праводзіў навучаньне рэлігіі. Ня была гэта сухая катахэза, але ўпойваў нам праўды веры, паслугоўваючыся прыгожай літаратурай...На прыкладах жыцьця выдатных людзей паказваў праўдзівую дарогу, якою мы, моладзь, павінны былі імкнуцца да Любасьці, Прыгажосьці і Дабра – непраміна́льных найвышэйшых вартасьцяў".

Паводля аўтара ўспамінаў, айцец Пётр Татарыновіч з энтузіязмам і верай ува ўласныя сілы з адданасьцяй працаваў для моладзі. У нядзельных ка́заннях прамаўляў да яе надта прыгожа. Вучыў любіць Бога і прыроду. Сваім-жа лірычным тэ́нарам упрыгожваў набажэнствы. Ягоны сьпеў чараваў моладзь.

"Апрача здольнасьці ўзгадаваўчай, – піша Станіслаў Бубень у сваіх успамінах пра айца Татарыновіча, – ён меў надзвычайную ўмеласьць арганізацыйную. Ягонай мэтай было вы́кіраваць сваіх вучняў на добрых вернікаў і грамадзянаў, разумных і дзейных сыноў Царквы і Бацькаўшчыны, прывучыць іх з маладу да Божае Службы, да жыцьця прыгожага, маральнага, працавітага, ахвярнага".

"Пад словам 'Бацькаўшчына', – кажа аўтар успамінаў, – тлумачыў нам – трэба разумець нашую дарагую зямліцу, што нас узгадавала, тых людзей, зь якімі лучыць нас прыродная сувязь, нашую гісторыю, нашыя песьні, звычаі, якія належалі да нашых пра́дзедаў бяз увагі на тое, ці яны сёньня агульна прызнаныя ці не. Кіруючыся гэткімі ідэямі, сарганізаваў ксёндз Пётр Татарыновіч у Баранавічах Саюз Каталіцкае Моладзі. Пад ягоным кіраўніцтвам і ру́нілася буйно́й зеленай юнацкая ніва".

"Ад самага пачатку, - працягвае Станіслаў Бубень, - Саюз разьвіваўся ах дасягнуў за пару гадоў найвышэйшага росквіту. Ідэйна-узгадавáўчая праца ў ім пульсавала з жывою энэргіяй, усе мы, юнакі, разумелі патрэбу такога дабрадзейства на полі самаўзгадаваньня. Не зважаючы на няпрыхільнасьць і недавер школьных уладаў да Саюзу, моладзь выконвала свае абавязкі прыкладна. Стараліся паглыбляць любасьць і прывязанасьць да прыгожых ідэалаў шляхам супольных набажэнстваў, рэкалекцыяў, чытаньня кніжак, а нават праз песьні і гульні.

Душою ўсякай імпрэзы, - адзначае аўтар успамінаў, - быў, вядома, ніколі няўтомны ксёндз Татарыновіч. Ён інспіраваў розныя пачынаньні, якія маглі нас цікавіць. Асабліва будзіў у нас гарачую любасьць да чароўнае прыроды. Арганізаваў экскурсіі на вольны прастор, у лес. Стараўся прыблізіць нас да вёскі, якая, як навучаў ён, заўсёды застанецца для нас быццам музэйздабыткаў нашае мовы і пабожных звычаяў. Часта ў скромнай сялянскай сьвятыніцы зьліваліся мы сваім духам із затопленым у малітве простым, духам братоў нашых сялян-беларусаў".

Прыгожая і плодная ўзгадавáўчая дзейнасьць, якую ў духу беларускага патрыятызму зеў айцец Пётр Татарыновіч у Баранавічах у 1923-1926 гадох была аднак спыненая. Працягваць яе было не наруку мясцовым польскім уладам. Таму біскуп паслаў яго на бедную занядбаную парафію ў глыб краю, на Мазуршчыну, каб толькі далей ад людзей, зь якімі быў зьвязаны ідэяй. У мілай школьнай капліччы, якую сам заснаваў у школе, прамаўляў апошні раз да сваіх каханых вучняў На вачох, - кажа аўтар успамінаў, - меў сьлёзы, разам зь ім плакалі хлопцы і дзяўчаты. Сапраўды была гэта хвіліна, што нас расчульвала".

Затым Станіслаў Бубень апісвае апошнюю экскурсію, якую ўлетку 1926 году сарганізаваў айцец Пётр Татарыновіч у лес і ў часе якое разьвітаўся з моладзьдзю, якую ўзгадоўваў у беларускім патрыятызьме. Але пра гэта мы будзем гаварыць у нашай апошняй гутарцы з цыклу, прысьвечанага сьветлай памяці Прэлату Пятру Татарыновічу ў сувязі з 10-мі ўгодкамі ягонае сьмерці, якія прыпалі на 3-га верасьня сёлета. (Заканчэньне будзе)

(лістапад)

I. ДЗЕЙНАСЬЦЬ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА

У лістападзе Ян Павал II меў кожнае серады тыдня сваю агульную аўдыенцыю ў Аўлі Паўла УІ. Вось тэмы яго разважаньняў:

- 2 XI. Гаварыў пра жыцьцё вечнае.
- 9 XI. "Значэньне цярпеньня ў сьвятле Хрыстовых мукаў".
- 16 XI. "Значэньне сьмерці Хрыста на Крыжы".
- 23 XI. "Апошняе слова Хрыста на Крыжы: вось Маці твая".
- 30 XI. "Апошнія словы Хрыста на Крыжы: Божа мой, Божа мой, чаму Ты мяне пакінуў".

Кожнай нядзелі месяца лістапада а таксама ў аўторак I лістапада Яго Сьвятасьць адгаворваў разам з веруючымі Багародзічную малітву "Анёл Гасподні", якую заўсёды папярэдкваў прамовамі. Вось пра што гаварыў Папа:

- 1 XI. На Сьвята Усіх Сьвятых гаварыў пра значэньне гэтага сьвята.
- 6 XI. Пра марыйнае сьвяцілішча ў Мэнтсэраце, недалёка Барселёны (Гішпанія)
- 13 XI. Прысьвяціў марыйнаму сьвяцілішчу Ружанцовай Божай Маці з Кап, распаложанаму паміж гарадамі Кэбэк і Монрэаль у горадзе "Кап-дэ-ля-Мадлен" у дыяцэзіі Труа- Рывіер.
- 20 XI. Пра значэньне сьвята Хрыста Валадара.
- 27 XI. Папа гаварыў на тэму Адвэнту.

I лістапада на Сьвята Усіх Сьвятых Ян Павал II адправіў Сьвятую Літургію- Імшу на рымскім магільніку "Вэрано" за ўсіх памёршых.

У суботу I2 лістапада ён прыняў на аўдыенцыі ўдзельнікаў міжнароднай навуковай канфэрэнцыі на тэму: "Хрост рускіх зямель- баланс тысячагодзьдзя".

У нядзелю 20 лістапада на Сьвята Хрыста Валадара, Папа абвясьціў благаслаўлёнымі чатырох слуг Божых: Лібэрта Вайсс (немец), Самуіла Мардзараті (італьянец), Міхала Пыё Фазолі (італьянец) і Кацярыну Дрэксэль (амэрыканку, ЗША).

З нагоды Сьвята Сьвятога Апостала Андрэя, якое прыпадае на 30 лістапада, Ян Павал II накіраваў да Канстантынопальскага Экумэнічнага Патрыярха Дзьмітрыя I спэцыяльнае пасланьне. Ватыканская дэлегацыя з гэтай нагоды паехала ў Фанар.

II. ГУТАРКІ Й ВЕСТКІ

Удням I і 2 кастрычніка бягучага году адбылася ў Лёндане навуковая канфэрэнцыя "Хрысьціянства і Беларускі народ", прысьвечаная 1000 годзьдзю хросту беларускі земляў. Наш карэспандэнт, Янка Мойсік, падчас гэтай канфэрэнцыі зрабіў сэрыю інтэрв'ю. Пачалі мы іх перадаваць па-радыё яшчэ ў кастрычніку, а канчаем у сьнежні, але пералік усіх інтэрв'ю зьмяшчаем у гэтым нумары. Сваімі думкамі ды ўражаньнямі падзяліліся:

- праф. Джэймс Флін (Вустэр Унівэрсытэт, ЗША);

-вядомая перакладчыца беларускай паэзіі на ангельскую мову - Вера Рыч;
- Мікола Давідзюк, выкладчык Акадэміі Прыгожых Мастацтваў у Лодзі;
- Антон Мірановіч, гісторык з Беластоцкаг філіялу Варшаўскага Унівэрсытэту;
- др. Аляксандр Барщэўскі, загадчык Катэдры Беларускай Філялёгіі Варшаўскага Унівэрсытэту;
- каталіцкія сьвятары зь Беларусі: а.а. Уладыслаў Чарняўскі і Янка Матусевіч;
- др. Мацей Сякерскі (Станфорд Унівэрсытэт, ЗША);
- праф. Джэймс Дынглі з Лёндanскага Унівэрсытэту, старшыня Англа-Беларускага Таварыства.

У лістападзе адзначылі мы наступныя ўгодкі:
- 30 годзьдзе сьвятарства а. Аляксандра Надсона - Апостальскага Візытатара для Беларусаў-каталікаў па-за Беларусьсю;
- 50 ўгодкі пакутнае сьмерці вядомага паэта Тодара Кляшторнага;
- 50 ўгодкі сьмерці ў ГУЛ-агу Зьмітрака Чарнушэвіча, палітычнага дзеяча, аднаго са стваральнікаў БССР;
- 25 годзьдзе напісаньня Алесем Асіпенкам аповесьці "Абжыты кут", сведкі жудаснага працэсу калектывізацыі на Беларусі.

Важнейшыя гутаркі й паведамленьні:
- пералік беларускіх сьвятых у Дзень Усіх Сьвятых і Задушны Дзень;
- агульны малітоўны намер Сьвяцейшага Айца на месяц лістапад: "Каб існаваньне і годнасьць кожнай людзкой асобы былі шанаваны ад самога зачацьця";
- стварэньне ў Менску рэспубліканскага грамадзка-культурнага таварыства памяці ахвяр сталінізму, "Мартыралёг Беларусі";
- фрагмэнт са стэнаграфічнага запісу прамовы пісьменьніка Уладзімера Дамашэвіча на пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, які адбыўся 19-20 траўня сёлета - "Праўда аб трагічным становішчы" ("Беларус", кастрычнік 1988г.);
- "За аднаўленьне нацыянальных сымбаляў Беларусі" ("Беларус", кастрычнік 1988г.);
- "Голас у справе меншасьцяў" - ліст прадстаўнікоў беларускай, літоўскай і украінскай нацыянальнасьцяў у Польшчы, патрабуючы зьмен сёньняшняга становішча ("Тыгоднік Поўшэхны", 30.10.1988г.);
- ход канфэрэнцыі "Хрост рускіх зямель - падрахунак тысячагодзьдзя", сарганізаванай у Вэнэцыі й Рыме Італьянскай Нацыянальнай Акадэміяй "Дэі Лінчэі";
- міжнародны зьезд у Рыме прысьвечаны сытуацыі ў балтыйскіх рэспубліках Савецкага Саюзу (18.11); арганізатарамі сустрэчы былі: цэнтр Экумэнічная Расея і Італьянскі Камітэт Нагляданьня над Гэльсінскімі Пагадненьнямі.

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

"Паважаныя працаўнікі Беларускай Сэкцыі Радыя Ватыкан!
Ветліва прашу зьмясьціць рэпартаж з высьвячэньня Беларускага Крыжа ў Прошчы ў Мідлянд, у Канадзе, які быў пастаўлены Беларусамі на адзначэньне 1000 год хрысьціянства ў Беларусі й быў высьвячаны ў часе 18-тай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі 5 верасьня 1988 г. айцом Аляксандрам Надсонам, Апостальскім Візытатарам для Беларусаў. У газэце "Беларус" рэпартаж з высьвячэньня Крыжа зьмешчаны толькі ў скароце. Выкінута сама істотная частка - апісаньне самога высьвячэньня Крыжа. Яна збыта толькі адным сказам, а гэта-ж была беспрэцэдэнтальная і непаўторная падзея! Такога не было й ня будзе, бо-ж другі раз высьвечваць Крыж ня будзем. Падзея гэта вялікай вагі й таму, што гэта быў найтрывалейшы з усіх спосаб адзначэньня мільлеміума хрысьціянства ў Беларусі. Гэты беларускі манумэнт мае трываць больш сотні гадоў. Падзея заслугоўвае на запісаньне друкам, асабліва самая Багаслужба высьвячэньня. Яна была такая прыгожая, урачыстая, узьнёслая - я запісала толькі найгалаўнейшыя яе мамэнты. І гэтыя мамэнты малітвы ня могуць пайсьці ў нябыт, як ня мога пайсьці ў нябыт уся ўрачыстасьць зьвязана з высьвячэньнем Крыжа. Гэты наш беларускі манумэнт - з Боскай волі ўжо робіць беларускую нацыянальную работу. Ён толькі моўчкі стаіць, манумэнтальны й прыгожы, і вымоўна гаворыць сьвету пра Беларусь"

Раіса Жук-Грышкевіч

Халоднае было надвор'е.

"Праціўны вецер лез у вочы
і плачам пеў, як дзіцянё..." (Я. Купала)

быццам над Беларусяй расьпятай на крыжы...

На трэці дзень 18-тай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, 5 верасьня 1988 г., яе ўдзельнікі з Бацькаўшчыны, Аўстраліі, Эўропы, ЗША й Канады зрабілі паломніцтва ў прошчу, што каля Мідлянд, блізу 200 км. на поўнач ад Таронта, каб быць удзельнікамі асьвячэньня Крыжа-беларускага манумэнту - пастаўленага Беларусамі для адзначэньня 1000 гадоў хрысьціянства ў Беларусі на славу Богу й Бацькаўшчыне-Беларусі.

Перад Сьв. Літургіяй акпраўленай а. Аляксандрам Надсонам, Апостальскім Візытатарам для Беларусаў, а. Джэймс Фаррэл - дырэктар "Мартырс Шрайн" у Мідлянд прывітаў паломніцтва Беларусаў, вітаў пабудову беларускага манумэнту ў прошчы й ацаніў гэтую гістарычную падзею як узмоцненую сувязь з Усявышнім у малітвах за зьдзейсьненьне нашых ідэалаў. А гэтак як у паломніцтве бралі ўдзел і Канадыйцы, прыяцелі Беларусаў з Бэры, а. Надсон прамовіў і па-ангельску ды зазначыў, што Багаслужба будзе ў беларускай мове, бо важна, каб наша малітва да Бога йшла ў нашай роднай мове. Толькі Сьв. Эвангельле апрача па-беларуску, прачытаў па-ангельску а. Фаррэл, які быў у саслужэньні з а. Надсонам. Да Багаслужбы пялі ўсе

пад кіраўніцтвам сп. Зьмітра Ціханюка, кіраўніка царкоўнага хору ў Гайнаўцы, гітарыстага ансамблю "Дубіны", з удзелам такіх выдатных галасоў як сп. Данчык Андрусышын, др. Ала Орса-Романо, сп-ня Галіна Ганчарэнка, сп-ня Вера Зяморская, др. Язэп Сажыц, спадарства Пакнічы, спадарства Рамукі ды іншыя. "Верую", "Ойча наш" і малітву перад прычасьцем: "Веру Госпадзе, і вызнаю, што Ты сапраўды Хрыстос, Сын Бога жывога, што прышоў у сьвет збавіць грэшнікаў, сярод якіх я самы першы... Зрабі мяне сёньня, Сыне Божы, удзельнікам Тваёй тайнай Вячэры; я ня здраджу ворагам Тваім тайны і ня дам пацалунку як Юда, але як разбойнік вызнаю Цябе: Успомні мяне,Госпадзе, у Валадарстве Тваім..." - усе хорам гаварылі ўголас. І амаль усе пасьля былі "ўдзельнікамі тайнае Вячэры".

У сваім казаньні па-беларуску а. Надсон гаварыў пра значэньне крыжа для нас, хрысьціян. Бог стаўся чалавекам, каб нам паспачуваць, перажыць людзкія спакусы, крыўды, перасьледы й нявінна памёр на крыжы за нашыя віны, дзеля нашага збаўленьня. Сьмерцю на крыжы пераміг сьмерць. Сваім уваскрашэньнем дараваў нам жыцьцё вечнае.

На заканчэньне гімн "Магутны Божа!" узьнімаў душы й сэрцы нашы ўгару.

Пасьля Літургіі, якая дзеля неспрыяльнага надвор'я адбылася ў капліцы, а не як плянавалася, перад нашым Крыжам, паломнікі перайшлі да беларускага Крыжа. Ужо здалёк на ўзгорку між бел-чырвона-белым беларускім і з кляновым лістком канадыйскім сьцягамі, на фоне зелені хвояў, кароны якіх зь ветрам, здалося, пялі песьню хвалы, з манумэнтальнай дастойнасьцю ўзносіўся ў неба бронзава-залацісты насьцінанцовы Ефрасінеўскі Крыж. З Крыжа, здаліся, на нас добрыя вочы Хрыста й Беларусі, якая казала:

"Я ўсё, колькі сілы, змагала, ўставала!
Я жыва! Народ мой са мною, пры мне!
Я ўсё перанесла і выйшла я з хвалай,
Я сільна, я вечна ў сваёй старане!"

Гонар адкрыцьця мэмарыяльнай бронзавай дошкі на каменнай падставе Крыжа заслоненае бел-чырвона-белым сьцягам а. Надсон даручыў др. Раісе Жук-Грышкевіч.

У часе ўрачыстай Багаслужбы (рэдакцыі а. Надсона) асьвячэньня Крыжа а. Надсон з натхненьнем гаварыў:

"Госпадзе,Божа славы, Ойча ўсемагутны... мы слугі Твае ўдастоіўшыся такой вялікай ласкі, сёньня прыносім Велічы Тваёй славы падзяку й пакорнае пакланеньне і просім Цябе глянуць ласкава на гэты вось Крыж, які мы паставілі на ўспамін аб ласцы веры сьвятой, дадзенай нашаму беларускаму народу тысяча гадоў таму назад. Пашлі на яго ласку Духа Твайго Сьвятога, блаславі, асьвяці яго і дай яму быць нам і ўсяму нашаму беларускаму народу магутнай абаронаю ад усіх супраціўнікаў бачных і нябачных, аховаю ад спакусаў, умацаваньнем у веры, падтрымкаю надзеі і заахвочваньнем да дабрадзейнасьцяў. Будзь спагаллівы для нас усіх, якія перад гэтым Крыжам молімся, і дай нам спаўненьне просьбаў для нашага збаўленьня. І як крыжам

сьвет быў вызвалены ад асуджэньня, так і слугам Тваім, і ўсяму нашаму беларускаму народу, і ўсім бацькам, братам і сёстрам нашым, якія памерлі ў надзеі ўваскрасеньня і жыцьця вечнага, асабліва тым, якія аддалі жыцьцё за наш народ, дай, каб яны былі пераможцамі граху, даруючы ім усё патрэбнае да збаўленьня і, настаўляючы ўсіх нас Крыжам Тваім да ўсяго добрага, прывядзі да Твайго Валадарства. Бо Ты - Крыніца й Падавец усяго добрага і Табе славу аддаем, Айцу і Сыну, і Сьвятому Духу, цяпер і заўсёды, і на векі вякоў. Амін."

Пасьля асьвячэньня Крыжа сьвятой вадой - тройчы крыжапаклонны напеў: "Крыжу Твайму пакланяемся, Уладыка наш, і сьвятое ўваскрасеньне Тваё славім". І малітва сьвятара: "... Прыйдзіце, верныя, паклонімся жыцьцядайнаму Крыжу... Прыйдзіце, верныя, паклонімся дрэву, якім мы ўдастоіліся скрышыць галовы нябачных ворагаў; прыйдзіце ўсе народы зямлі, каб песьнямі ўславіць крыж Гасподні... Сёньня мы, хрысьціяне, са страхам цалуем цябе, славім да цябе прыбітага Бога, кажучы: 'Госпадзе, што быў прыбіты да крыжа, зьмілуйся над намі, бо Ты добры й чалавекалюбец. Слава Табе, Хрысьце Божа, надзея наша, слава Табе!"

## КАЛЯДЫ

Прышлі Піліпаўка, Мікола,
Дзянькі праходзяць больш вясёла,
Бо хоць зіма і крэпіць дужа,
І хоць бушуе яе сьцюжа,
Бы тое дзікае ігрышча,
І вецер жудасна засьвішча,
Як на дудзе ці на клярнэце
На нейкім злыдневым банкеце, —
Ды ўсё-ж сьвятлеюць даляў вочкі
І іх бялюткія сарочкі.
Ёсьць хараство і ў гэтых зімах
І ў мёртва-белых тых кілімах,
Што віснуць зьзяюць хрусталямі
Над занямелымі лясамі,
Калі ў вагністым мароз троне
Ў крывава-багравай заслоне
Над сьветам рукі ціха ўздыме
І зачаруе, ўсё абніме;
А як усходзіцца завея,
І вецер зь сьнегам задурэе
Ды затрасецца віхрам белым!...
Эх, колькі волі ў руху сьмелым!
— Гуляй зіма, твая часіна!
Ды скора будзе палавіна,
А там цяплом табе павее,
А ўдзень і сонейка прыгрэе! —

— Ну, засьцілайце стол, мужчыны!
І стол той гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падымаюць,
На стол растрэсваюць мурог —
На сене колісь быў Сын-Бог —
І роўным пластам расьцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць.
За стол садзяцца ўсе ў парадку
І прад сабой кладуць аладку,
Відэльцы, лыжкі разьбіраюць,
І стравы першае чакаюць.
— Ты, брат, глядзі не апукайся:
Ня надта зразу накідайся,
Бо потым шчыра пашкадуеш,
Калі жывот свой напіцуеш:
Чым дальш — смачнейшыя патравы,
І многа іх, усе цікавы;
Я знаю хітрасьць гэту ўсю, —
Алесь гаворыць Кастусю.
Міхал бутэльку адтыкае,
Бо ўжо закуска тут чакае:
Стаяць, як горкі, скавародкі,
Тут акунькі, мянькі і плоткі,
Ды так падсмажаны, што люба —
Сама да іх імкнецца губа.
Гарэлка, радасьць-весялуха,
Прыемна булькае для вуха
І гэтак вочы прыцягае,
Ну, як каханка маладая!
— Ну, што-ж Антось, здароў будзь
браце!
Няхай дае Бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае,
Каб у хляве ды ўсё пладзілась,
Каб жыта ў полі каласілась,
Няхай раяцца добра пчолы,
І самі будзем мы вясёлы;
За год дай Божа дачакаць
Здаровым новы год спаткаць.
— Дай Божа! — дзядзька адазваўся
П'ючы цяпер да гаспадыні —
Падатак кажнай дай часьле,
На ўсё гатовы ў кажным часе. —
І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырвонаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,

Кялбох і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя зь лета.
Але ня ўсё яшчэ і гэта:
Закрашан квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй — цішком скажу між намі —
Каб і язык ня ўцёк часамі.
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку.
А там ламанцы-праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі —
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш — абліжыся.
За праснакамі йшлі кампоты,
Кісель зь мядоваю сытою;
Вячэру скончылі куцьцёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы нядатак той аддаць,
Стары звычай ушанаваць.
І посьле гэтакай вячэры
Жывот выпучваўся бязь меры,
А з-за стала як уставалі,
То нават трохі і стагналі.
  На першы дзень сьвятых Калядак —
Такі ўжо быў стары парадак —
Зьбіралі сена із стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, ў драбнюткім сене —
Здавён-даўна вялося й гэта —
Уважна зернятак шукалі
І па тых зернятках гадалі,
Які зародзіць хлеб на лета?

ЯКУБ КОЛАС "НОВАЯ ЗЯМЛЯ".